


DC
COMICS™

THE NEW 52!

# BATMAN™

40

SNYDER
CAPULLO
MIKI
PLASCENCIA




БЭТМЭН
#40 (2011)
ПЕРАКЛАД
І АФАРМЛЕННЕ:
КОЗЫРАЎ СЯРГЕЙ

Capullo 14 +fco

RATED T TEEN

JUN 2015

DCCOMICS.COM

ГЭТЫ МОМАНТ.



КОЛЬКІ РАЗОЎ ТЫ ДА ЯГО ВЯРТАЎСЯ?

ПЯКУЧАЯ СПЯКОТА. ЧАН З ДЗІЎНЫМ, АЛЕ ПРЫЕМНЫМ ПАХАМ ЗЯЛЁНАГА ЯБЛЫКА...

АДЛЮСТРАВАННЕ НА ГЭТЫМ КРЫВАВА ЧЫРВОНЫМ ШЛЕМЕ ВЫГІНАЕЦЦА, ЯК У ПАКОІ СМЕХА.



І ЁН. ВОСЬ ЁН, ТУТ, У САНТЫМЕТРАХ АД ТВАІХ ПАЛЬЦАЎ. ТАК БЛІЗКА, ШТО МОЖНА АДЧУЦЬ ЦЯПЛЫНЮ ЯГО ЦЕЛА. ЁН ТУТ, АЛЕ ЎЖО ПАДАЕ...



ЧАСАМ ТЫ ЎЯЎЛЯЕШ, ШТО Ў ЦЯБЕ АТРЫМАЛАСЯ. ШТО ТЫ БЫЎ ДАСТАТКОВА ХУТКІМ. ШТО ПАСПЕЎ СХАПІЦЬ ЯГО.

НЕ. ЁН ДАЗВОЛІЎ САБЕ ЎПАСЦІ... ЁН БЫЦЦАМ ВЕДАЎ. ЁН БЫЦЦАМ СМЯЯЎСЯ З ЦЯБЕ З САМАГА ПАЧАТКУ. З ТВАЁЙ МЭТЫ. З ТВАЙГО ЖЫЦЦЯ. З УСЯГО ГЭТАГА.

БЫЦЦАМ УСЁ ГЭТА НЕ МАЕ СЭНСУ. БЫЦЦАМ УСЁ ГЭТА НІЧОГА НЕ ЗНАЧЫЦЬ.

АЛЕ ЁН СМЯЕЦЦА ТОЛЬКІ МАЦНЕЙ.

БЫЦЦАМ ШТО БЫ ТЫ НІ РАБІЎ, УСЁ ЗАЎЖДЫ...

...ЗАКАНЧВАЕЦЦА ГЭТЫМ.

ПРАЦІСКАЕМСЯ ДАЛЕЙ!

ЁН **ВОСЬ ТАМ**!

ХІ ХІІІ! ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯГО! ЁН ІДЗЕ І ІДЗЕ! НАСУПЕРАК УСЯМУ! НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА МАРНАСЦЬ УСЯГО ГЭТАГА! ЯКІ МАЙЧЫНА!

# BATMAN: ENDGAME
## PART SIX

WRITER SCOTT SNYDER
PENCILLER GREG CAPULLO

INKER DANNY MIKI COLORIST FCO PLASCENCIA LETTERER STEVE WANDS
COVER CAPULLO, MIKI & PLASCENCIA
VARIANT COVER BY ANDY KUBERT & BRAD ANDERSON
MOVIE VARIANT BY DAVE JOHNSON
ASSISTANT EDITOR MATT HUMPHREYS ASSOCIATE EDITOR REBECCA TAYLOR
EDITOR MARK DOYLE
BATMAN CREATED BY BOB KANE






Я СКАЗАЎ ІМ, ШТО ВА ЎСІХ МАСКАХ ЁСЦЬ ГАЗ, ЯКІ ІХ ЗНЕПРЫТОМІЦЬ, КАЛІ ХТОСЬЦІ ПАЧНЕ КАЛЕЧЫЦЬ СУПЕРНІКАЎ.
ГЭТА НЯ ПРАЎДА, АЛЕ ПАВІННА ПАЎЗДЗЕЙНІЧАЦЬ.


МАЦЬ ЦЯБЕ ЗА НАГУ. ІХ ЗАНАДТА ШМАТ! **ПЛЮШЧ**!
УЖО.




ОГО, А ТЫ ДОБРА ТАНЬЧЫШ! ВЫХОДЗЬ ЗА МЯНЕ. ВЕДАЮ, ГЭТА ЯК **ПАЛЬЦАМ У НЕБА**. НУ ДЫК ШТО... ЛІЧЫШ, ЯШЧЭ РАНА?


БЛІЖЭЙ НЕ ПАДЫСЦІ!
НЕ ВА Ў СІХ.


БЭЙН!
СЛУХАЮ!





УХ!

URRRRRM
ТАК-ТАК, БЭТСССС...

URRRRRRRR
НЕ УМЕШИВАЙСЯ!


ДА ТАГО Ж, МЫ З ТАБОЙ УЖО ЎСЮ ПАДЛОГУ САПСАВАЛІ...
...ВЫГІНЫ І ЗАВАРОТКІ...
...ЗНАЁМЫЯ СКАЧКІ І НАХІЛЫ...


...ЦІ НЕ ЗДАЕЦЦА ТАБЕ, ШТО НАДЫШОЎ ЧАС ПАСПРАБАВАЦЬ НОВЫХ ПАРТНЁРАЎ?!


ЯШЧЭ НЕ!
УХ!
ПЕННІ-ДВА, ЁН МОЙ!


ЗАРАЗ АТРЫМАЮ ВАДКАСЦЬ!


ДАВАЙ!
ХУТЧЭЙ!


ХЕХ. ТЫ САПРАЎДЫ ЛІЧЫЎ, ШТО ЎСЁ БУДЗЕ ТАК ПРОООСТА?! ПРАЗ УСЁ, ШТО МЫ З ТАБОЙ ПРАЙШЛІ... ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ МОЖАШ МЯНЕ НАСМЯШЫЦЬ!

HEEHEEEEHEEEEHEEEHEEE HEEHEEEEHEEEEHEEEHEEEE

АААААААА!

ШТО ТАКОЕ?! Я ЦЯБЕ НЕ ЧУЮ З-ЗА **СТА САРАКА ДЭЦЫБЕЛ** ВЯСЕЛЛЯ!

АЛЕ Я Ж ТАБЕ **КАЗАЎ**... АПОШНІМ, ШТО ТЫ ПАЧУЕШ, БУДЗЕ ГОРАД, ЯКІ СМЯЕЦЦА З ЦЯБЕ...

...І, ЛІЧУ, ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ДАДАЦЬ СЯБЕ Ў АНСАМБАЛЬ...

...І АПУСЦІЦЬ ЗАСЛОНУ! ХАХАХАХА!

«БАЮСЯ, Я НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ НІЧОГА СМЕШНАГА НАКОНТ ГАЗА... СТАРАЯ ДОБРАЯ СМЕРЦЬ У ФЛАКОНЕ!»

«ХАЦЯ ЯНА НЕ ПАДЗЕЙНІЧАЕ НА **МАІХ** СЯБРОЎ, ТОЛЬКІ НА **ТВАІХ**, НЕЧАКАНЫХ ГАСЦЕЙ! І ЁН ХУТКІ. ПАДЗЕЙНІЧАЕ ПРАЗ СЕКУНДУ!»

KKKKRK

УДЫХАЙ ГЛЫБЕЙ, КАЖАНЧЫК. УДЫХАЙ ГЛЫЫЫЫБЕЙ.

НЕ...

...ЯШЧЭ Н...

...

СТОЙСТОЙСТОООЙ! ЛЕДЗЬ НЕ ЗАБЫЎ! ЯШЧЭ ШТОСЬЦІ, ПАКУЛЬ ТЫ ТУТ! ПАВАДЖУ ЦЯБЕ АПОШНІМ, **ЛЕПШЫМ** ЖАРТАМ! ХА!

РАЗУМЕЕШ, РЭЧЫВА, ЯКОЕ ТЫ ШУКАЕШ. БЭТ-ЛЕКІ Ў МАЁЙ СПІНЕ. АМБРОЗІЯ Ў МАЁЙ ШЫІ.

Я ЎЖО САПСАВАЎ ЯГО! САПРАЎДЫ, ЯГО НЕ ВЫЦЯГНУЦЬ З МЯНЕ! КАЛІ Б ТЫ НАВАТ ЗДАБЫЎ МОЙ НЕКТАР, ЁН БЫ ССОХСЯ Ў ЦЯБЕ НА РУКАХ!

АЛЕ. АЛЕАЛЕАЛЕ! ВОСЬ У ЧЫМ СОЛЬ... ХІ-ХІ! О, БУДЗЕ КРУТА. ЗІРНІ, БЭТСІ!

БАЧЫШ, ТУТ ЯШЧЭ ЁСЦЬ ТРОХІ ДЫЯНІСІЯ, ТУПЕНЬ!

САПРАЎДЫ! НЕВЯЛІКІ ЗАПАС! АЛЕ ЁН ТУТ, ГЛЫБОООКА ПАД ГОТЭМАМ! ЗА ВЕНТЫЛЯЦЫЙНЫМІ ТАНЭЛЯМІ І ВЫГНУТЫМІ ПЕРАХОДАМІ! УНІЗЕ, ЛЯ САМАЙ МАТЭРЫКОВАЙ ПАРОДЫ! СХАВАНЫ, ЗАМІНІРАВАНЫ!

КАЛІ Б ТЫ ТОЛЬКІ **ВЕДАЎ** СВОЙ ГОРАД ЛЕПШ! КАЛІ Б ТЫ ТОЛЬКІ БЫЎ БЭТ-КАРАЛЁМ, ЯКІ ЯМУ **ПАТРЭБНЫ**! АЛЕ ТЫ ЎСЯГО ТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК. ПРОСТЫ ХЛОПЧЫК, ЯКІ КЛІЧА СВАІХ БАЦЬКОЎ. САМЫ СЛАБЫ ЧАЛАВЕК З УСІХ!

ТАМУ СУМУЙ, КРОШКА КАЖАН! ПАКУЛЬ У ВАЧАХ СТАНОВІЦЦА ЦЁМНА-ЦЁМНА!

АЛЕ ГЛЯДЗІ ТЫМІ Ж ВАЧАМІ, ЯКІМІ БАЧЫЎ, ЯК ЗАСТРЭЛІЛІ МАЦІ І ТАТУ. ВАЧАМІ, ЯКІЯ З ТЫХ ЧАСОЎ СТАЛІ СЛЯПЫМІ, ЯК У КАЖАНА! ДЗЕ ГЭТЫЯ СУМНЫЯ ЗЕНКІ?!

ІЛЖЫВЫЯ ВОЧЫ...


...БРУСА ЎЭ...
ШТО ЗА...

ТЫ...
ТЫ...

НАПЭЎНА, ТЫ ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ КХА... **ДЗІК**.

ГРЭЙСССАН?! НЕ МОЖА БЫЦЬ...

НУ ЖА, НУЖА! НУ ЧАМУ ТЫ НЕ...
KLIK
KLIK

НЕ...

БЭМТЭН, ТЫ ПРАХОДЗІШ АДЗНАКУ Ў ТРЫСТА МЕТРАЎ. ХУТКА БУДЗЕШ ЗАНАДТА ГЛЫБОКА, КАБ...

Я ЎЖО БЛІЗКА. ТРОС АМАЛЬ ЗАКОНЧЫЎСЯ.

ТОЛЬКІ, КАЛІ ЛАСКА, ПАСПЯШАЙСЯ... Я РАБЛЮ СТОЛЬКІ ПЕРАШКОД, КОЛЬКІ МАГУ, АЛЕ ВЫБУХОЎКА НЕ КАНТРАЛЮЕЦЦА. Я НЕ МАГУ ДОЎГА АДКЛАДВАЦЬ ВЫБУХ, І ТЫ ЯШЧЭ ДАСТАТКОВА ГЛЫБОКА... ЗАВАЛ БУДЗЕ...

ЗНАЧЫЦЬ, ПРОСТА БУДЗЬ ГАТОВА ВЫЦЯГВАЦЬ МЯНЕ.

ЯК АСТАТНІЯ?

Я ЗГУБІЛА КАНТАКТ.

...

ГЭТА МОГУЦЬ БЫЦЬ ПЕРАХОПНІКІ. ПРОСТА ІДЗІ ДАЛЕЙ.

А ЯШЧЭ ГЭТА МОЖА АЗНАЧАЦЬ, ШТО ЯНЫ ЗАГІНУЛІ. ДЖУЛІЯ НЕ ХОЧА ГЭТАГА КАЗАЦЬ, АЛЕ ГЭТА ПРАЎДА.

АЛЕ ГЭТА БЫЎ АДЗІНЫ СПОСАБ. ПАМЯНЯЦЦА МЕСЦАМІ З ДЗІКАМ У ТАНЭЛЯХ ЭЙС.

ТЫ ВЕДАЕШ ГЭТА. ГЛЫБОКА ЎНУТРЫ ТЫ ВЕДАЕШ ГЭТА. КАЛІ Б ДЖОКЕР НЕ ЎБАЧЫЎ, ШТО БЭТМЭН ТАМ І ІДЗЕ ЗА ІМ, ЁН БЫ ЗРАЗУМЕЎ... ЁН БЫ АКТЫВІРАВАЎ БЫ БОМБЫ Ў ТАНЭЛЯХ РАНЕЙ, ЧЫМ ТЫ Б ЗРАБІЎ СВОЙ ХОД.

ЦЯПЕР ТАБЕ ПРОСТА ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ГЭТА ГРОБАНАЕ РЭЧЫВА. ЁСЦЬ СВЕДЧАННІ. ТЫ БАЧЫЎ МАДЭЛЬ СОЎ... ЯНЫ КАПАЛІ НЕДАЛЁКА АДСЮЛЬ. І ЎСЁ Ж ГЭТЫЯ ПЯЧОРЫ – САПРАЎДНЫ ЛАБІРЫНТ.

ТВАЯ ЗДАГАДКА? ГЭТА ТОЕ САМАЕ ВОКА, ЯКОЕ ДАЎ ТАБЕ ТВОЙ БАЦЬКА, ЯКІ ПРЫВЁЎ ЦЯБЕ Ў ТУЮ ПЕРШУЮ ПЯЧОРУ.

АПУСЦІЦЬ ЯГО СА СКАЛЫ, З ЯКОЙ ТЫ СКІНУЎ ЯГО Ў АПОШНІ РАЗ, НЯХАЙ ЁН СКЛАДЗЕ МАПУ...

АЛЕ...

...ГЭТА РЫЗЫКА. САМАЯ БУЙНАЯ Ў ТВАІМ ЖЫЦЦІ, БЭТМЭН.

ДЫК КУДЫ?! ЯНО ПАВІННА БЫЦЬ ТУТ. УЖО НАЯЎНАСЦЬ ВЫБУХОЎКІ ГЭТА ДАКАЗВАЕ. АЛЕ ДЗЕ Ж, ЧОРТ БЯРЫ?! НЯМА ЧАСУ ДЛЯ...


...


ПЕННІ-ДВА, Я ЗНАЙШОЎ ЯГО.
**ЗНАЙШОЎ?!** ЗНАЙШОЎ!


РЫХТУЮ АНАЛІЗАТАР. ДАЙ МНЕ ПЯТНАЦЦАЦЬ СЕКУНД.
ЧАКАЮ. НАПЭЎНА, ДЖОКЕР ЗНАЙШОЎ ЯГО, КАЛІ Я СКІНУЎ ЯГО СА СКАЛЫ.
МАГЧЫМА, ЁН ВЫКУПАЎСЯ Ў ІМ ЦІ ЗНАЙШОЎ, ПАКУЛЬ ПОЎЗ, ХТО ВЕДАЕ. АЛЕ ЯНО... ВЫЛЕЧЫЛА ЯГО. ЯГО ТВАР, ЯГО ЗЛАМАНЫЯ КОСЦІ.
АЛЕ ЎСЁ Ж **НЕМАГЧЫМА**, КАБ ЁН ЗНАЙШОЎ ЯГО НЕКАЛЬКІ СТАГОДДЗЯЎ НАЗАД, КАЛІ...
КІПЦЮРОЎ ТРЭНІРАВАЛІ КАЗАЦЬ ПРАЎДУ. КАЛІ БУН СПРАБАВАЎ ЗАПЭЎНІЦЬ МЯНЕ, ШТО ДЖОКЕР ЖЫЎ У ЯГО ЧАС, Я ВЕДАЎ, ШТО ЁН ПАДМАНВАЕ.
АЛЕ БЭТМЭН, БІЯЛОГІЯ НЕЖЫЦІ...


ЁН ПРОСТА ЧАЛАВЕК. ПАВІНЕН БЫЦЬ ІМ.
СКАЖЫ, ШТО ЎЖО ГАТОВА.
...ГАТОВА! ДАВАЙ, ДАВАЙ, **ДАВАЙ!**


**СУПАДЗЕННЕ** ПА ВІРУСУ! ГЭТА ТОЕ, ШТО ВЫКАРЫСТОЎВАЎ ДЖОКЕР, КАБ СТВАРЫЦЬ РАЗЛАГАЮЧЫ РЭАГЕНТ. З ЯГО ДАПАМОГАЙ МЫ ЗМОЖАМ СТВАРЫЦЬ **ЛЕКІ**.


ЭХ... ДЗЯКУЙ БОГУ. ЗАРАЗ НАБЯРУ ТРОХІ. ГЭТАГА ПАВІННА БЫЦЬ БОЛЬШ ЧЫМ ДАСТАТКОВА...
ISTHISTHING ONISTHIS THINGON...

БЭТМЭН! ВЫБІРАЙСЯ АДТУЛЬ **ЗАРАЗ ЖА! ВЫБУХОЎКА!**

ЯНА ЗАРАЗ...


БЭТМЭН! БРУС, ТЫ...
Я Ў ПАРАДКУ! БУДЗЬ ГАТОВА ПАДНЯЦЬ **ВОКА**!

ТОЛЬКІ **ПАСПЯШАЙСЯ**! ПАКАЗЧЫКІ... УВЕСЬ ГЭТЫ РУКАЎ ПЯЧОР СТАНОВІЦЦА НЕЗБАЛАНСАВАНЫМ!

ДЖУЛІЯ! **СЛУХАЙ** МЯНЕ! **ШТО Б НІ** ЗДАРЫЛАСЯ...
НЕ! НЕ, **ЗАРАЗ ЖА** ПРЫШПІЛІСЯ!

Я ПРЫШПІЛЕНЫ! ТОЛЬКІ **АБЯЦАЙ** МНЕ...
КАЛІ БУДЗЕ НЕЙКАЯ ПРАБЛЕМА, ХОЦЬ ЯКАЯ МАЛЕНЬКАЯ..


ХТО ЗАМАЎЛЯЎ ПРАБЛЕМУ?! ХАХАХА!
АААААААААА!


ПАМЯТАЮ, ЯК ТЫ КАЗАЎ МНЕ, ШТО ВЕДАЕШ СВАЕ ПЯЧОРЫ ЛЕПШ УСІХ... ШТО Ж, ГЭТЫЯ ПЯЧОРЫ – МАЕЕ-ЕЕ. САМЫЯ ГЛЫБОКІЯ, САМЫЕ ЦЁМНЫЯ Ў ГОТЭМЕ. САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ СЮДЫ, БЭТСССС.
БРУС, Я ЦЯБЕ ПАДЫМАЮ! СКАЖЫ, ШТО ТЫ ПРЫШПІЛЕНЫ!
УХ... ЁН ПРОСТА... ПОЙДЗЕ ЗА ІМ. ЁН СПЫНІЦЬ ЯГО.
БРУС, ТЫ Ж ПРЫШПІЛЕНЫ? ТЫ ПРЫШПІЛЕНЫ, ЧОРТ БЯРЫ?!


НЕ.
ВЫЦЯГВАЙ ВОКА.
АЛЕ Б...
ЦЯГНІ.
МНЕ ЯШЧЭ ТРЭБА ТУТ ШТОСЬЦІ ЗРАБІЦЬ.




ХАХА! ЯКІ БАЯВЫ ДУХ!

ТАКІ ХУТКІ. Я АМАЛЬ ЗАБЫЎ, ЯКІ ЁН ХУТКІ. АЛЕ ЦЯПЕР ЁН ЗДАЕЦЦА ЯШЧЭ БОЛЬШ ХУТКІМ, ЗАНАДТА...
УХ!

Я ВЕДАЮ, АБ ЧЫМ ТЫ ДУМАЕШ, БРУСІ...

ТАКІ ХУТКІ! ЁН ТРЭНІРАВАЎСЯ ПАСЛЯ НАШАЙ АПОШНЯЙ СУСТРЭЧЫ? ХАХА!

ГЭТА ДЫЯНІСІЙ? Ці, МАБЫЦЬ... Я **ЗАЎСЁДЫ** БЫЎ ТАКІМ ХУТКІМ І ПРОСТА ДАЗВАЛЯЎ ТАБЕ **ЛІЧЫЦЬ**, ШТО Я ПАВОЛЬНЫ? ХАХ.
ООО, НЕ ГЛЯДЗІ НА МЯНЕ ТАК!
УСПОМНІ ПРА ЛЕПШЫ ЧАС, ШТО Ў НАС БЫЎ...

...І ЎСМІХНІСЯ!



АЙ!


НУ ВОСЬ, ЗАСТАНЕЦЦА ШРАМ. А ДАКЛАДНЕЙ, ЗАСТАЎСЯ Б...
...КАЛІ Б Я БЫЎ ТАКІМ, ЯК ТЫ.
ХЕХ. АЛЕ ШРАМ НАСАМРЭЧ **ЗАСТАНЕЦЦА**, ДЖОКЕР.


ЦІ БАЧЫШ ШТО, ТОЙ БЭТАРАНГ БЫЎ З **БЛАКІРАТАРАМ ІМУННАЙ РЭАКЦЫІ**, ЗАСНАВАНЫМ НА АНАЛІЗЕ, ЯКІЯ Я ТОЛЬКІ ШТО ЎЗЯЎ З ГЭТАЙ ЯМЫ.
ТАМУ, КАЛІ ТЫ ВЫЛЕЧВАЕШСЯ З ДАПАМОГАЙ **ГЭТАГА** ДЫЯНІСІЯ Ў ЯГО ЦЯПЕРАШНЯЙ, СЛАБОЙ ФОРМЕ, ТАДЫ ГЭТЫ БЛАКІРАТАР ПРОСТА СПЫНІЦЬ ТВАЕ НЕВЯЛІКІЯ ЗДОЛЬНАСЦІ ДА САМАВЫЛЯЧЭННЯ... КАЛІ ТОЛЬКІ ТЫ НЕ ПРЫМЕШ ЯГО ЗНОЎ.
З ІНШАГА БОКУ, КАЛІ ТЫ **ТОЕ**, ЗА КАГО СЯБЕ **ВЫДАЕШ**, І ЗНАЙШОЎ ГЭТУ ЯМУ СОТНІ ГАДОЎ НАЗАД, КАЛІ ДЫЯНІСІЙ БЫЎ ЧЫСТЫМ... ТАДЫ ТОЕ, ШТО Я З ТАБОЙ ТОЛЬКІ ЗРАБІЎ, НЕ БУДЗЕ МЕЦЬ **ЗНАЧЭННЯ**.


ГЭТА МОЖА ТРОХІ ЗАПАВОЛІЦЬ ТВАЁ ВЫЛЯЧЭННЕ, АЛЕ Ў РЭШЦЕ РЭШТ ТВАЁ ЦЕЛА АДНАВІЦЦА.
ТАМУ, ЛІЧУ, ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ПАКАЗАЦЬ СВАЕ КАРТЫ... ДЖОКЕР.


З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ!


КХА. ПАВЯРНІСЯ, БРУС. Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ПАГЛЯДЗЕЎ НА МЯНЕ. КХА. Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ЎБАЧЫЎ, ХТО Я НА САМОЙ СПРАВЕ!


БО Я ТОЙ, ХТО СМЯЕЦЦА, ЗРАЗУМЕЎ?! Я ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТУТ, СМЯЯЎСЯ З ЦЯБЕ, З УСІМІ ВАМІ, З НАЙВЯЛІКШАГА ЖАРТА, БЫЦЦАМ ВАША ЖЫЦЦЁ МАЕ СЭНС! НАВАТ КАЛІ Я БЫЎ У ІНШЫМ ВОБЛІКУ, НАСІЎ МАКІЯЖ ЦІ ЧЫРВОНАЕ, Я КАЗАЎ ТАК!


АДНАК ПОТЫМ ТЫ... З'ЯВІЎСЯ З НІАДКУЛЬ, ПЕРАТВОРАНЫ Ў НЕШТА ТАКОЕ Ж ШАЛЁНАЕ, ЯК І Я, БОЛЬШ ІХ, І ТЫ СУПРАЦЬСТАЯЎ МНЕ.
І ДОЎГІ ЧАС ПРАДМЕТАМ ЖАРТА БЫЎ Я, Я НЕ ПАМЫЛЯЮСЯ? ЗМАГАЦЦА ЗА БЯССЭНСАВАСЦЬ, АЛЕ НАДАВАЦЬ СЭНС САМОЙ ГЭТАЙ БІТВЕ! ХА!
ЯК НАМ БЫЛО ВЕСЕЛА, ПАКУЛЬ МЫ ЗМАГАЛІСЯ. АЛЕ ПОТЫМ, КАЛІ ТЫ ТРУХАНУЎ, КАЛІ ТЫ АДСТУПІЎ, ШТО Ж... ГЭТА БЫЛО ЯК ДОЎГІ ВОСТРЫ...


...НОЖ У СЭРЦЫ!


УХ. Я МОГ ЗРАБІЦЬ ЦЯБЕ ВЕЧНЫМ, ЯК ТЫ ЗАЎСЁДЫ ХАЦЕЎ! МАЯ КРОЎ, ГЭТА... Я МОГ. УХ... РАТАВАЦЬ ЦЯБЕ! ВА ЎСЯГО ГЭТАГА МОГ БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫ КАНЕЦ!


ГЭТА... МАГЛО БЫЦЬ... **ВЕСЕЛА!**


ГЭТА... ЯШЧЭ НЕ КАНЕЦ.


...ШТО ТЫ... А! МАЯ СПІНА...
ДЫЯНІСІЙ... Я...
СТОЙ... ДЖОКЕР...


Я ЗАГАДАЎ, **СТОЙ**!
УХ!


МНЕ ТРЭБА СКАЗАЦЬ ТАБЕ НЕШТА.
АДЧАПІСЯ... АД МЯНЕ!
МНЕ ТРЭБА СКАЗАЦЬ ТАБЕ... Я НАРЭШЦЕ **ПАВЕРЫЎ** ТАБЕ.


Я **ЗРАЗУМЕЎ**. ТУТ І ЦЯПЕР. ТЫ **САПРАЎДЫ** БЛЕДНЫ ЧАЛАВЕК.
МЫ МОГ ПАКІНУЦЬ МЯНЕ ЎНІЗЕ Ў ЦЕМРЫ, АДНАГО, АЛЕ ТАБЕ ПРЫЙШЛОСЯ ПРЫЙСЦІ, САПРАЎДЫ? ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ ДАКАЗАЦЬ МНЕ. І Я ЗРАЗУМЕЎ! Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ТАБЕ **НЕ ПАТРЭБНА** НОВАЯ ПОРЦЫЯ ДЫЯНІСІЯ. **КАНЕШНЕ**, НЕ. ТАМУ ШТО ТЫ ГЭТА ЁН!
АДПУСЦІ, ПРЫТЫРАК!


АЛЕ Я, ДЖОКЕР. Я ПАМІРАЮ. Я ПАМРУ АД ТРАЎМАЎ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН. ТАМУ... КХА... МАБЫЦЬ ЗАСТАНЕШСЯ СА МНОЙ? НЕНАДОЎГА?
УХ!


ЗАСТАНЬСЯ І ПРАБАЧ МНЕ. ПРАБАЧ, ШТО Я БЫЎ ТАКІМ СЛЯПЫМ.
ЗАРАЗ ТУТ УСЁ... АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ! КАЛІ ЛАСКА! ПРОСТА...


НЕ! ТОЛЬКІ КАЛІ ТЫ ПРАБАЧЫШ МНЕ, ШТО Я НЕ ЗРАЗУМЕЎ ГЭТАГА РАНЕЙ! ПАКУЛЬ ТЫ НЕ **СКАЖАШ ГЭТАГА**!
ПРАБАЧАЮ, ДОБРА?! ПРАБАЧАЮ! Я ПРАБАЧАЮ ТАБЕ, Б...


ДЗЯКУЙ.


НЕ! ДЫЯНІСІЙ!


ТЫ... ТЫ ЗАБІЎ НАС. НАВАТ... НАВАТ КАЛІ Я ЗЛАМАЎ КОЖНУЮ ЧАСТКУ.


НЕ, НЕ ЗЛАМАЎ.


«Я ЎСТАЛЯВАЎ ВОКА Ў ІХ МАСКІ. АДНУ З СУМЯСЕЙ ДЭККЕРА. НЕ МОЖА ПАРАЎНАЦЦА З ТЫМ, ШТО БЫЛО ТУТ, АЛЕ ЎСЁ Ж...»
«...ЯНЫ БУДУЦЬ У ПАРАДКУ...»


...УПЭЎНЕНЫ, І ТЫ ТАК САМА.


БРУС! БРУС, НА СУВЯЗЬ! СІСТЭМА ПЯЧОР **РАЗБУРАЕЦЦА**! І ТВАЕ ЖЫЦЦЁВЫЯ ФУНКЦЫІ... У ЦЯБЕ **НЕДАХОП КРЫВІ**!
НЕ, НЕ, НЕ...
СЛУХАЙ МЯНЕ, АДКРЫЙ **ВОКА** І ПРЫМІ ТРОХІ ДЫЯНІСІЯ! ХУТКА ПРЫМІ!
НЕ.


КАЛІ АДКРЫЦЬ... КХА... МОЖНА РАЗБУРЫЦЬ УСЮ СТРУКТУРУ.
ПАДЫМАЙ ВОКА. ЗАРАЗ ЖА.


НЕ БЕЗ **ЦЯБЕ**! ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ МОЖАШ...
ДЖУЛІЯ. ПАДЫМАЙ ЯГО.


Я ПРОСТА АДПАЧНУ ТУТ ТРОХІ СА СВАІМ СЯБРАМ.







ПРАЗ ДВА ТЫДНЯ
ЗАЧЫНІ.

ТАТА, ТАБЕ ПАТРЭБНА ТРОХІ СВЯТЛА.

ГОРШЫ МОМАНТ АБУДЖЭННЯ... ГЭТА КАЛІ ПЕРШУЮ СЕКУНДУ ЗДАЕЦЦА «ДЗЯКУЙ БОГУ, УСЁ ГЭТА БЫЎ НЕЙКІ ЖУДАСНА КАШМАР».
АЛЕ ЯГО САРПАЎДЫ НЯМА, ТАК?

ТАК. ЯГО НЯМА.
І, **ВЕДАЮ**, ТЫ Б НЕ ХАЦЕЎ АБ ГЭТЫМ РАЗМАЎЛЯЦЬ, АЛЕ ТВАЯ **РУКА**. ЯЕ АТРЫМАЛАСЯ ЗАХАВАЦЬ, АЛЕ КАЛІ ТЫ НЕ...

НЕ.
БОЛЬШ НЕКАГА ЦЫРАВАЦЬ.


...
ЧАГО Я НЕ РАЗУМЕЮ... ЗА ТОЙ КАРОТКІ ЧАС, ШТО Я БЫЛА ТУТ, Я БАЧЫЛА, ЯК ЁН СУТЫКАЎСЯ З УСЯКІМІ РЭЧЫВАМІ. ЭЛЕКТРУМ. ЛАЗАРУС. МАГІЯ І НАВУКА. АЛЕ ЁН НІКОЛІ... НІКОЛІ НІЧОГА НЕ ВЫКАРЫСТОЎВАЎ, КАБ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ.
ЁН БЫЦЦАМ ВЫКЛІКАЎ СМЕРЦЬ НА БОЙ. Я ПРОСТА НЕ...
Я НЕ ВЕДАЮ.


ЁН ПАКІНУЎ НАТАТКУ. ЯНА ТРОХІ ЗАГАДКАВАЯ. І, МЯККА КАЖУЧЫ, КАРОТКАЯ. ШЧЫРА КАЖУЧЫ, Я НЕ РАЗУМЕЮ ЯЕ. ХОЧАШ ЯЕ ЎБАЧЫЦЬ?
НЕ.




ТАК.


ВОСЬ. ГЛЯДЗІ.

«РАЗУМЕЕШ, ПРА ШТО Я?»

«ЗАГАДКАВАЯ».




«ЯМУ НІКОЛІ НЕ ПАДАБАЛАСЯ ГЛЯДЗЕЦЬ НА СВАЮ СМЕРЦЬ, ДЖУЛІЯ. ЁН ТОЛЬКІ ДУМАЎ, ЯК ЯЕ ПРАДУХІЛІЦЬ».

«АЛЕ Я ВЕДАЮ, ШТО АПОШНІЯ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ЯМУ **ПРЫХОДЗІЛАСЯ** ГЛЯДЗЕЦЬ НА РОЗНЫЯ СПОСАБЫ СВАЁЙ СМЕРЦІ ШМАТ РАЗОЎ».

«Я СПАДЗЯВАЎСЯ... ЗАЎСЁДЫ СПАДЗЯВАЎСЯ... ШТО ЯК-НЕБУДЗЬ, УБАЧЫЎШЫ ЯЕ, **ЗРАЗУМЕЎШЫ** ЯЕ, ЁН ЗНОЙДЗЕ **ВЫХАД**. Я ЗАЎСЁДЫ ВЕДАЎ, ШТО ЁН НІКОЛІ НЕ СПЫНІЦЦА, АЛЕ, МАБЫЦЬ, ХАЦЯ Б, ЯК ТЫ СКАЗАЛА, ЁН ЗМОЖА ЗНАЙСЦІ БОЛЬШ МОЦНУЮ АБАРОНУ. НЕЙКІ **ВЫХАД**...»

«АЛЕ ГЭТА ГЛУПА. І ТАМУ ДЖОКЕР... ТАМУ ЁН **ПАМЫЛЯЎСЯ**, ПАДШТУРХОЎВАЮЧЫ БЭТМЭНА ДА **ХЭПІ ЭНДА**. ГЭТАГА ЁН НІКОЛІ НА САМОЙ СПРАВЕ НЕ РАЗУМЕЎ У БЭТМЭНЕ СА СВАІМІ ПРАПАНОВАМІ БЕССМЯРОТНАСЦІ І ПЕРАВАГІ...»

«ГЭТА БРУС **ВЕДАЎ** ПРА БЭТМЭНА ЛЕПШ, ЧЫМ ХТО-НЕБУДЗЬ ІНШЫ».

«ТОЕ, ШТО ГЛЫБОКА Ў ДУШЫ МЫ ЎСЕ ВЕДАЕМ, АЛЕ НЕ ХОЧАМ ПРЫЗНАВАЦЬ...»


«...ШТО ГІСТОРЫЯ ПРА БЭТМЭНА – ГЭТА ЗАЎСЁДЫ **ТРАГЕДЫЯ**».
«БРУС НІКОЛІ Б НЕ ДАЗВОЛІЎ ЁЙ БЫЦЬ ЧЫМСЬЦІ ЯШЧЭ».
THE GOTHAM ROYAL THEATER
«БЭТМЭН МОГ БЫ ЖЫЦЬ ВЕЧНА. ЁН **МОГ БЫ** ЎЦЕКЦІ. АЛЕ ЁН ГЭТАГА НЕ РОБІЦЬ. ЁН **ПАМІРАЕ**, ЯК КОЖНЫ З НАС, НАВАТ КАЛІ ГЭТАГА МОЖНА ПАЗБЕГНУЦЬ».
«ГЭТА ЯГО СЛАБОЕ МЕСЦА».


«АЛЕ Ў ГЭТЫМ І ЯГО МАГУТНАЯ СІЛА. МЕНАВІТА ГЭТА РОБІЦЬ ЯГО БЕССМЯРОТНЫМ».
«ЁН ГАВОРЫЦЬ, ШТО МЫ РАЗАМ. ЁН ГАВОРЫЦЬ, ПРАЖЫВІ СМЕЛА ТОЙ ЧАС, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ, І ЎСМІХНІСЯ БЕЗДАНІ».


«ТАМУ НАТАТКА ГАВОРЫЦЬ ТОЕ, ШТО ЯНА ГАВОРЫЦЬ. ТАМУ ТУТ УСЯГО АДНО СЛОВА».


«ТАМУ АПОШНІМ СЛОВАМ БЭТМЭНА ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ...»


ХА.